# НА ПАРАДКУ ДНЯ — ХАРАВОЕ МАСТАЦТВА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

рад друкаваных прац аб беларускай харавой музыцы, ёсць паліграфічная база, і таму выданне такога метадычнага дапаможніка можна здзейсніць у самы кароткі тэрмін і на высокім прафесіянальным узроўні. Патрэбна толькі неадкладна арганізаваць аўтарскі калектыў і ўключыць выданне дапаможніка ў вытворчыя планы Белдзяржвыдавецтва на самы бліжэйшы час. Пажадана таксама, каб рэдакцыя музычнай літаратуры выдавецтва павялічыла тыражы і паскорыла выпуск у свет лепшых харавых твораў беларускіх кампазітараў і хрэстаматый па беларускай харавой літаратуры.

Наспела неабходнасць, каб рэспубліканскі метадычны кабінет з дапамогай кансерваторыі, Саюза кампазітараў і Камітэта па радыёвяшчанню наладзіў серыю магнітафонных запісаў у адпаведнасці з праграмай заняткаў па харавой літаратуры і рассылку іх у музычныя вучылішчы рэспублікі ў якасці вучэбных дапаможнікаў.

Надзвычай важнай справай у выхаванні дырыжораў-харавікоў з'яўляецца вытворчая практыка навучэнцаў, іх непасрэдная праца з вучнямі школ на занятках у класах. Аднак нярэдка здараецца, што навучэнец музычнага вучылішча, які за гады вучобы атрымаў пэўныя веды і набыў некаторыя дырыжорскія навыкі, трапляе на практыку ў клас да «выкладчыка» музыкі з былых баяністаў, трубачоў ці кларнетыстаў, якія вельмі цьмяна ўяўляе сабе тэхніку дырыжыравання і методыку заняткаў. Зразумела, што практыка пад наглядам такога «кіраўніка» мала чаго можа даць навучэнцу, а між тым ад яго патрабуюць умельства праводзіць заняткі з хорам, чытаць лекцыі па тэорыі музыкі, сальфеджыо і слуханню музыкі.

Заслугоўвае ўвагі практыка Гродзенскага музычна-педагагічнага вучылішча, якое замацавала сваіх навучэнцаў за харавымі калектывамі школ горада, дапамагло наладзіць работу гэтых хораў, і, такім чынам, атрымала добрую базу для вытворчай практыкі. Плённыя вынікі дае замацаванне навучэнцаў-харавікоў за асобнымі самадзейнымі харавымі калектывамі, якое служыць на карысць як навучэнцам, так і самадзейным артыстам.

Яшчэ адной карыснай формай дзейнасці дырыжорска-харавых аддзяленняў музычных вучылішчаў магла б з'явіцца арганізацыя агульнагарадскіх дзіцячых хораў і хораў настаўнікаў школ з абавязковым наведваннем іх заняткаў усімі выкладчыкамі музыкі і спеваў. Калі б паставіць справу так, то можна было б вырашыць пытанне вытворчай практыкі навучэнцаў і адначасова значна пасунуць наперад агульнае развіццё харавога мастацтва.

Яшчэ адна цяжкасць сустракаецца на шляху дырыжорска-харавых аддзяленняў. Гэта — узрост паступаючых. У пераважнай большасці паступаюць учарашнія школьнікі ва ўзросце 15—16 год, якія толькі што скончылі 7—8 класаў. Яны не маюць ніякай спецыяльнай музычнай падрыхтоўкі, не зусім уяўляюць сабе цяжкасці сваёй будучай прафесіі і, часцей за ўсё, не могуць спяваць, таму што іх былыя альты і дысканты яшчэ толькі пераходзяць у ломкія барытоны і тэнары.

І вось такога юнака, які і сам яшчэ не можа спяваць у хоры і не мае ніякага выканаўчага вопыту, з першага ж курса пачынаюць вучыць, як кіраваць хорам. Акрамя гэтага, ён павінен авалодаць усімі музычна-тэарэтычнымі дысцыплінамі, прайсці курс ігры на фартэпіяна, добра ведаць харавую літаратуру, засвоіць методыку масавай музычнай работы, хоразнаўства, тэхніку дырыжыравання і яшчэ цэлы рад дысцыплін. Не ўсе з паступіўшых у музычныя вучылішчы могуць справіцца з такой нагрузкай, некаторыя губляюць упэўненасць і адсейваюцца. Другія, сяк-так закончыўшы чатырохгадовы курс, усё ж не становяцца дырыжорамі-харавікамі, а ўладкоўваюцца на працу ў якасці выкладчыкаў музычна-тэарэтычных дысцыплін ці педагогаў па фартэпіяна (патрэба ў такіх педагогах надзвычай вялікая і ўладкавацца на работу можна літаральна ўсюды).

Такім чынам «перакваліфікоўваецца» яшчэ некаторая частка выпускнікоў дырыжорска-харавых аддзяленняў, якія трапілі ў вучылішчы, як след не разабраўшыся ў сваіх імкненнях. Тут значна дапамагло б адкрыццё падрыхтоўчага курса для дырыжорска-харавых аддзяленняў музычных вучылішчаў і арганізацыя ў Мінску ці любым другім горадзе рэспубліканскага харавога вучылішча, дзе маглі б займацца з самага ранняга ўзросту музычна адораныя дзеці.

Педагагічная дзейнасць выкладчыкаў-харавікоў заўсёды бывае цесна звязана з работай у самадзейнасці і таму няма нічога дзіўнага, што ўдзельнікі метадычнай канферэнцыі многа і горача гаварылі аб надзённых пытаннях развіцця харавой самадзейнасці. Так, напрыклад, вельмі жывую рэакцыю дэлегатаў выклікаў змястоўны, навукова абгрунтаваны даклад народнага артыста БССР Г. Цітовіча аб спецыфіцы работы хормайстра з народным хорам, які закрануў праблемы развіцця народнага мастацтва, захавання яго традыцый і г. д.

Многія актуальныя пытанні харавой справы былі грунтоўна разгледжаны і ў іншых выступленнях. Выкладчыкі і навучэнцы дырыжорска-харавых аддзяленняў прымаюць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці рэспублікі, аказваюць дзейсную дапамогу мастацкай самадзейнасці, наладжваюць вялікую колькасць канцэртаў і лекцый у рабочых клубах, калгасных дамах культуры і універсітэтах мастацкага выхавання; на грамадскіх асновах адкрылі некалькі бясплатных музычных школ на прамысловых прадпрыемствах, у калгасах і школах-інтэрнатах; збіраюць лепшыя ўзоры музычнай народнай творчасці і робяць яшчэ шмат самых разнастайных карысных спраў.

Метадычная канферэнцыя была вельмі карыснай не толькі таму, што вырашыла значную частку важных і спрэчных пытанняў развіцця харавога мастацтва, а другую частку паставіла на разгляд адпаведных устаноў, але і таму, што ўдзельнікі канферэнцыі абагульнілі свой багаты вопыт, падзяліліся ім са студэнтамі-харавікамі Белдзяржкансерваторыі, вызначылі цэлы рад мерапрыемстваў для ўздыму харавой справы ў Беларусі. Можна спадзявацца, што такія канферэнцыі стануць рэгулярнымі, прыцягнуць самыя шырокія колы кіраўнікоў самадзейных харавых калектываў і прынясуць вялікі плён для развіцця беларускага музычнага мастацтва.

**Д. ЖУРАЎЛЁЎ.**

# Шлях скульптара

У выдавецтве Акадэміі мастацтваў СССР выйшла з друку манаграфія Ф. Рагінскай аб творчай дзейнасці аднаго з майстроў беларускага выяўленчага мастацтва З. І. Азгура.

Аўтар грунтоўна аналізуе першыя творчыя крокі пачынаючага скульптара, падкрэслівае ролю і значэнне ў яго фарміраванні М. Керзіна, які зрабіў значны ўплыў на выхаванцаў Віцебскага мастацкага тэхнікума, сярод якіх быў і З. Азгур. Яна ілюструе свае сцвярджэнні пераканаўчымі прыкладамі першых творчых поспехаў З. Азгура, такімі, як «Ліцейшчык» (1925 г.), дзе ўжо відаць умельства маладога скульптара пластычна бачыць і выяўляць чалавечы твар з яго падабенствам і характарам.

«У гады навучання ў тэхнікуме, — піша Ф. Рагінская,—З. Азгур вучыўся прагна, запоем. Акрамя заданняў па курсу тэхнікума, ляпіў мноства партрэтаў сваіх сяброў, знаёмых».

Яшчэ будучы студэнтам, Азгур удзельнічае ў Першай усебеларускай мастацкай выстаўцы ў 1925 годзе. Работы яго былі станоўча ацэнены. З гэтага часу пачынаецца сістэматычны ўдзел маладога таленавітага скульптара ў перыядычных выстаўках беларускіх мастакоў, што кладзе пачатак яго актыўнай творчай і грамадскай дзейнасці.

Ад першых вопытаў у партрэтным жанры, З. Азгур крок за крокам авалодваў майстэрствам пластычнага ўвасаблення вобразаў выдатных вучоных, дзеячоў культуры і навукі далёкага мінулага і сваіх сучаснікаў. Намаганні мастака з кожным разам усё больш станавіліся прыкметнымі на агульным фоне маладой савецкай беларускай скульптуры. На кожнай з работ відаць пошукі рэалістычнай закончанасці твару чалавека, яго знешняга падабенства і характарыстыкі грамадскай дзейнасці. Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны Азгур прыходзіць як майстар партрэта, прафесіянальныя якасці якога станоўча вылучаліся на агульным фоне перадваеннай беларускай скульптуры. Партрэты Гракха Бабеха, Сярго Арджанікідзе, А. Бразера, Змітрака Бядулі з'явіліся значным укладам у развіццё беларускага мастацтва.

Асабліва актывізуецца творчасць З. Азгура, піша Ф. Рагінская, у перыяд Вялікай Айчыннай вайны. Цыкл партрэтаў Герояў Савецкага Саюза, створаных у дні вайны, сапраўды з'яўляецца жывым летапісам гераічнай народнай барацьбы з гітлераўскімі полчышчамі.

Скульптар з вялікім натхненнем працуе над партрэтамі беларускіх партызан, праслаўленых воінаў Савецкай Арміі. Любоў мастака да чалавека, які ішоў на фронт і ахвяроўваў жыццём у імя перамогі над ворагам Радзімы, з асаблівай сілай кранала сэрца.

Цыкл партрэтаў Герояў Савецкага Саюза — снайпера Фядоса Смалячкова, бацькі Міная, В. Казлова, капітана М. Гастэлы, В. Талаліхіна, А. Крывашэіна, партызанкі Патоцкай — адлюстроўвае веліч савецкага народа, яго нескаронасць і непераадольную сілу.

Партрэты Герояў Савецкага Саюза — А. Радзімцава, А. Малодчага і М. Сільніцкага, піша Ф. Рагінская, вылучаюцца з гэтага цыкла высокім майстэрствам. Па сваёй пластычнай выразнасці яны лепшыя з галерэі вобразаў савецкай скульптуры.

Савецкі чалавек, смелы і мужны, усведамляючы сваё месца ў агульным страі на пярэднім краі барацьбы народа за ажыццяўленне сваёй вялікай мэты, становіцца асноўным героем творчасці З. Азгура не толькі гэтага перыяду, але і наступных гадоў.

Пластычная гранічнасць і глыбіня зместу партрэтаў ваеннага часу ўласцівы як тым з іх, што стаяць у музеях, так і тым, што пастаўлены на вуліцах і плошчах гарадоў і сёл. Гэтыя партрэты спалучаюць у сабе, — сцвярджае аўтар кнігі,—якасці манументальнай і ў той жа час станковай скульптуры. Станковы партрэт, прызначаны для музейнай экспазіцыі, не губляе сваёй сілы ўздзеяння, будучы вынесены на плошчу або вуліцу, ва ўмовах вялікіх маштабаў прасторы. Аўтар кнігі лічыць, што для савецкай мастацкай культуры, у тым ліку і для скульптуры, характэрны эпічны пачатак. Савецкімі майстрамі створаны новыя ўзоры шырока вядомых эпічных твораў. Сюды можна аднесці і галерэю бюстаў-партрэтаў З. Азгура перыяду вайны, якія паказваюць людзей-герояў, нашых сучаснікаў.

У раздзеле кнігі, прысвечаным творчасці канца саракавых і пяцідзесятых гадоў, аналізуюцца творы разнастайных жанраў, у якіх давялося працаваць З. Азгуру пасля вайны.

Тут бюсты-партрэты выдатных дзеячоў сусветнага камуністычнага руху — Мао Цзэ-дуна, Марыса Тарэза, Пальміра Тальяці, Вільгельма Піка, Хо Шы Міна, Кім Ір Сена, Герояў Сацыялістычнай Працы — Е. Лясніцкай, Тамары Шкурко, А. Гарэцкай, М. Мялешчанкі, А. Стыкут, партрэты беларускіх пісьменнікаў — Цёткі, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кандрата Крапівы; помнік Уладзіміру Ільічу Леніну. Скульптар з неаслабным тэмпераментам і энергіяй адклікаецца на самыя надзённыя грамадска-палітычныя пытанні і задачы.

Значна ўзбагачаецца тэматыка творчасці майстра па сваёй шырыні і змесце задум, яна выходзіць за межы сваёй рэспублікі. З Азгур стварае цыкл партрэтаў майстроў высокіх калгасных ураджаяў, пісьменнікаў, вучоных, дзеячоў савецкай навукі і культуры. Паасобныя творы вызначаюцца дасканаласцю майстэрства і ўваходзяць у лік лепшых дасягненняў савецкай скульптуры. Павышаецца цікавасць мастака да матэрыялу. Многія вобразы атрымалі сваё выяўленне ў граніце, бронзе, мармуры, тэракоце. З. Азгур шукае і знаходзіць у кожным з гэтых матэрыялаў характэрна і тое спецыфічнае, што ўзмацняе выразнасць вобраза, яго пластычную гранічнасць. Паранейшаму майстар удасканальвае ўмельства выкарыстоўваць у характарыстыцы вобраза кожную дэталь.

Многа сілы ў пасляваенныя гады З. Азгур аддае манументальнай скульптуры. Яго цяга да эпічных рашэнняў у ранейшых работах заканамерна прыводзіць майстра да творчай удачы ў працы над статуяй выдатнага рускага вучонага А. Бутлерава, устаноўленай у адным з пад'ездаў Маскоўскага універсітэта.

Лепшым з многіх манументальных твораў Ф. Рагінская лічыць велічны, строгі па лініях, цэльны ў сваіх пластычных прапорцыях помнік Ул. І. Леніну ў горадзе Арджанікідзе. Аналізуючы іншыя помнікі, Ф. Рагінская прыходзіць да той думкі, што майстэрства скульптара апошніх гадоў больш за ўсё выявілася ў партрэце. З даследчыкам можна поўнасцю згадзіцца, калі мець на ўвазе партрэты Ул. І. Леніна з дзяўчынкай, кітайскага пісьменніка Лу Сіня і адзін з лепшых твораў, які атрымаў станоўчую ацэнку на міжнароднай выстаўцы ў Бруселі, — партрэт Рабіндраната Тагора.

Не ўсё, вядома, раўнацэнна ў вялікай колькасці твораў З. Азгура, нават у лепшых цыклах партрэтаў майстра ёсць недахопы. Аднак сапраўдныя маштабы і месца мастака вызначаюцца тым лепшым, што ім створана. А створанае сапраўды такое значнае, сцвярджае аўтар кнігі, што паставіла З. Азгура ў рад выдатных майстроў савецкага многанацыянальнага мастацтва.

Кніга напісана з дакладным веданнем матэрыялу, дае аб'ектыўную ацэнку творчасці З. Азгура. Яна змяшчае ў сабе найбольш поўна фактычны матэрыял — рэпрадукцыі з работ майстра, пачынаючы з вучнёўскіх і да апошніх гадоў.

Манаграфія, бясспрэчна, з'явіцца значным крокам мастацтвазнаўчай навукі ў распрацоўцы тэмы беларускага выяўленчага мастацтва.

**П. ГЕРАСІМОВІЧ.**

Ф. С. Рагінская. «Заір Ісакавіч Азгур». Выдавецтва Акадэміі мастацтваў СССР. Масква, 1961.

# ФАТАГРАФІІ, ДАКУМЕНТЫ, ПІСЬМЫ

У Літаратурны музей Якуба Коласа паступаюць новыя матэрыялы, фатаграфіі, дакументы, пісьмы, ненадрукаваныя творы паэта.

Нядаўна, напрыклад, у музей перадаў пісьмо Мікалай Іванавіч Міцкевіч, які працуе у Акадэміі навук БССР. У час Айчыннай вайны Мікалай Іванавіч знаходзіўся на фронце. Туды і прыслаў яму пісьмо Якуб Колас з Ташкента. У ім паэт піша аб мужнасці савецкіх воінаў, аб тым, што нямецка-фашысцкія захопнікі будуць разгромлены.

З Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя Леніна паступіў здымак: Янка Купала і Якуб Колас разам з беларускімі пісьменнікамі Міхасём Чаротам, Цішкам Гартным і Змітраком Бядулем.

Жонка прафесара Маскоўскага універсітэта Б. Бенкергейма перадала рукапісы першай рэдакцыі паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка», а жонка вядомага ў свой час вучонага-географа Аркадзія Смоліча, Аляксандра Смоліч, перадала некалькі да гэтага часу невядомых фатаграфій Якуба Коласа 20-х гадоў. Новыя дакументы аб педагагічнай дзейнасці Якуба Коласа ў Белдзяржуніверсітэце паступілі з Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР. Сярод іх кароткая аўтабіяграфія Якуба Коласа, а таксама тры заявы, якія паэт пісаў у дэканат.

Музей за апошні час папоўніўся творамі Якуба Коласа, выдадзенымі ў Польшчы, Чэхаславакіі, Германіі, Манголіі..

**М. ЖЫГОЦКІ.**

# ВЫСТАЎКА МАСТАКА-ГРАФІКА

Амаль кожны месяц у Віцебскім педагагічным інстытуце наладжваецца паказ работ прафесіянальных і самадзейных мастакоў. Зараз тут адкрыта справаздачная выстаўка твораў выкладчыка кафедры малюнка і жывапісу Віцебскага інстытута, члена Саюза мастакоў БССР Г. Клікушына.

Гэты мастак працуе галоўным чынам у галіне графікі. Не так даўно ён удзельнічаў у выстаўцы «Графіка Беларусі», якая экспанавалася ў Рызе.

На сваю справаздачную выстаўку Г. Клікушын прадставіў звыш 200 работ. Асабліва выразныя яго гравюры, яны цікавыя і па зместу і па колеру. На некаторых з іх адлюстраваны індустрыяльныя пейзажы Віцебска і вобласці, аблічча новых вуліц і плошчаў абласнога горада, маляўнічыя куткі прыроды беларускай зямлі. Гэта—гравюры «Над Дзвіной», «Восень», «Помнік Ул. І. Леніну», «Вуліца Талстога», «Мост» і інш.

Значнае месца на выстаўцы займаюць ілюстрацыі да літаратурных твораў, выдадзеных Белдзяржвыдавецтвам. Мы бачым добра выкананыя вокладкі кніг Я. Коласа, Я. Купалы, П. Панчанкі, П. Галавача, К. Чорнага, Ул. Дубоўкі, кніг украінскіх, латышскіх, польскіх, балгарскіх, кітайскіх і іншых аўтараў.

Акрамя таго, на выстаўцы нямала эцюдаў, плакатаў і замалёвак алоўкам.

Выстаўка карыстаецца поспехам.

**В. ВІНАГРАДАЎ.**

# МАГІЛЁЎСКІ НАРОДНЫ

Сцэна са спектакля «Спатканне ля чаромхі», пастаўленага Магілёўскім народным тэатрам. У ролі Сені — А. Урублеўскі, у ролі Валі — Т. Крукоўская.

Шэрае цемрыва павольна насоўваецца на горад. У змроку тонуць дамы, скверы, паркі. Над вуліцамі, тратуарамі ўспыхваюць тысячы агнёў. Вуліцы становяцца шматлюднымі; здаецца, увесь Магілёў выйшаў вітаць надыход ночы. На жаль, ідзе зіма. Гуляць на холадзе доўга не будзеш. А што ж рабіць? І людзі ідуць у клубы, кінатэатры, дамы культуры. Кожны вечар тысячы людзей праглядаюць новыя кінафільмы (дарэчы, яны дэманструюцца тут раней, чым у Мінску), наведваюць канцэрты калектываў мастацкай самадзейнасці, абласны драматычны тэатр. Ёсць у горадзе і другі тэатр: Народны пры клубе чыгуначнікаў.

Любяць магіляўчане, якія жывуць у чыгуначным раёне, свой Народны тэатр. З вялікай ахвотай наведваюць яго спектаклі. Але не толькі ў сваім клубе выступае калектыў Народнага. Яго спектаклі бачылі рабочыя заводаў штучнага валакна і пад'ёмна-транспартнага абсталявання, саўгаса «Вейна» і фабрыкі імя Валадарскага; студэнты падінстытута. Выязджаюць артысты Народнага ў калгасы і саўгасы, выступаюць на сцэне абласнога драматычнага тэатра. Бачылі іх і мінчане: па тэлевізару і на сцэне Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы; у Палацы прафсаюзаў і ў Тэатры юнага гледача.

Не адразу прыйшло прызнанне. Старэйшая ўдзельніца калектыву інспектар абласной канторы Дзяржаўнага банка Лідзія Агееўна Ходар, якой прысвоена званне артысткі народнага тэатра, расказвае:

— Наш тэатральны калектыў быў створаны даўно. Спачатку мы ставілі невялічкія скетчы, інтэрмедыі, проста дэкламавалі вершы, чыталі ўрыўкі з раманаў, апавяданняў, нарысаў. Выступалі, дзе прыйдзецца, бо не мелі пастаяннага месца. У 1948 годзе быў пабудаваны клуб. З таго часу работа пайшла весялей. Ужо не асобныя людзі прыходзілі ў калектыў, а дзесяткі. Прыйшлося стварыць дзіцячы тэатральны калектыў, тэатральную студыю, канцэртную брыгаду. Рабочыя палюбілі нас. У госці да сябе запрашалі чыгуначнікі іншых гарадоў. З поспехам ішлі нашы спектаклі ў Крычаве, Шклове, Оршы, Быхаве, Рагачове, Асіповічах і іншых гарадах.

Л. Ходар — выканаўца ролі Кацярыны.

Н. Скарабагаты — выканаўца ролі П. Мержкова.

Фато А. Рагоўскага.

— Каля ста чалавек удзельнічае ў нашых тэатральных калектывах, — гаворыць рэжысёр і мастацкі кіраўнік народнага тэатра Уладзімір Змітравіч Бараноўскі. — Усе ўдзельнікі вучацца або працуюць. Ёсць і пенсіянеры, як, напрыклад, З. Яўтухоў, былы майстар вагоннага дэпо, які 45 год працаваў на чыгунцы. Лепшым удзельнікам калектыву прысвоена званне «артыст народнага тэатра». Яго ўдастоены токар паравознага дэпо Я. Лаўрэнцьеў, экспедытар абласнога ўпраўлення хлебапрадуктаў М. Скарабагаты, інжынер Магілёўскага аддзялення Беларускай чыгункі А. Скацёчак, былы столяр нашага Дома культуры, а зараз загадчык клуба мясакамбіната А. Урублеўскі і іншыя. Некаторыя нашы таварышы перараслі рамкі самадзейнасці і сталі прафесіянальнымі акцёрамі. Так, М. Мацюшэўскі зараз працуе ў абласным драматычным тэатры; выпускніца тэатральнай студыі Э. Дзераўцова —артыстка Бабруйскага тэатра; намотчыца завода «Электрарухавік» Т. Яблыкава вучыцца ў Маскоўскім дзяржаўным інстытуце тэатральнага мастацтва; В. Тураў—рэжысёр «Беларусьфільма»; С. Аграновіч — кіраўнік танцавальнага калектыву і выкладчык тэатральнай студыі.

Адной з задач, якія партыя вызначае ў новай Праграме КПСС, прынятай гістарычным XXII з'ездам, з'яўляецца усебаковае развіццё чалавечай асобы. У перыяд пераходу да камунізма, — гаворыцца ў Праграме,— узрастаюць магчымасці выхавання новага чалавека, які гарманічна спалучае ў сабе духоўнае багацце, маральную чыстату і фізічную дасканаласць.

Калі гаварыць пра артыстаў Народнага тэатра, то многія гэтыя рысы цяпер уласцівы ім. Не, не для нажывы, не дзеля асабістай выгады амаль увесь свой вольны час праводзяць у клубе планавік чыгуначнага аддзела рабочага забеспячэння С. Валодзькава, сакратар камсамольскай арганізацыі завода «Электрарухавік» Л. Арахоўскі, дыспетчар аэрапорта І. Гесь, медыцынскія сёстры Т. Крукоўская, А. Карнілава і інш. Некаторыя з іх з'яўляюцца дружыннікамі, членамі рэдкалегій насценных газет, выконваюць іншыя грамадскія даручэнні. Ёсць і такія, што не толькі выдатна працуюць, актыўна ўдзельнічаюць у грамадскай рабоце, але і вучацца.

Гэтыя людзі не лічацца са сваім часам, калі іх любімая работа патрабуе яго. Здараецца, што ўсе вечары сцэна клуба занята іншымі мерапрыемствамі, а іх тут шмат: 20 дзён у месяц у глядзельнай зале дэманструюцца кінафільмы; два-тры дні займаецца універсітэт культуры; пяць дзён — вечары моладзі; і толькі два дні застаецца Народнаму тэатру на паказ спектакляў. А калі ж рэпетыцыі праводзіць?

— Спачатку праводзім іх у кабінеце рэжысёра, — гаворыць А. Скацёнак, — а потым, калі ўжо без сцэны нельга абысціся, выкарыстоўваем яе — калі ў клубе танцы. У фае танцуюць, а мы на сцэне рэпеціруем. Нярэдка працуем і ноччу, пасля кінасеансаў.

Не, не выгады шукаюць у клубе гэтыя цудоўныя, шчырыя людзі, якія выхоўваюць пачуцці прыгожага, добры густ, павышаюць культуру сваю і другіх, кожным сваім спектаклем садзейнічаюць духоўнаму росту чалавека.

Шмат спектакляў паказвае працоўным і дзіцячы калектыў Народнага тэатра.

Вялікую, карысную справу робяць артысты Народнага. Прыгадваецца такі выпадак.

Мы сядзелі ў кабінеце рэжысёра, размаўлялі, калі ў пакой зайшла жанчына год сарака пяці ў рабочай ватоўцы. Яна акінула нас позіркам і адразу падышла да Бараноўскага.

— Дзякую вам, Уладзімір Змітравіч, добрую вы справу робіце.

— Калі ласка, але, прабачце, з кім маю гонар размаўляць?

— Сын мой у вас вучыцца. Да гэтага быў такім неслухам, што нават і ўявіць цяжка. Вучыўся дрэнна, па вуліцы бадзяўся. А я на заводзе працую, рабочая, не маю часу з ім займацца. Цяпер ён зусім іншы. Стаў добрым вучнем, мне дапамагае, пачаў многа чытаць, марыць аб жыцці...

Такіх, як сын гэтай жанчыны, у калектыве многа. Толькі за адно гэта, ужо не гаворачы пра ўсё іншае, можна сказаць артыстам Народнага тэатра: вялікую карысную справу робіце вы, таварышы!

**П. ШАЎЦОЎ.**

г. Магілёў.

# АБ ПАЭЗІІ — ПА ЗАКОНАХ ПАЭЗІІ

**Алесь КУЧАР**

Са здавальненнем і добрай творчай зайздрасцю прачытаў я новую кнігу крытыка Рыгора Бярозкіна «Спадарожніца часу». Хаця кніга прысвечана творчасці такіх розных паэтаў, як Янка Купала, Міхась Чарот, Максім Лужанін, Пятро Глебка, Змітрок Астапенка, Валянцін Таўлай, Антон Бялевіч, Анатоль Вялюгін, Кастусь Кірэенка, Аляксей Русецкі, Рыгор Барадулін, аднак яна не пакідае ўражання збору артыкулаў аб гэтых паэтах. Кніга Р. Бярозкіна метадалагічна цэласная, творча адзіная, бо цэльны і бескампрамісны сам крытык у сваіх творчых поглядах і ідэалах.

Адзін клопат прасякае ўсю кнігу — клопат аб тым, каб наша савецкая паэзія была на вышыні задач часу, каб глыбокая ідэйнасць спалучалася ў ёй з вялікім майстэрствам.

Аўтарская канцэпцыя ўзаемаадносін паміж рэчаіснасцю і яе мастацкім выражэннем, грунтуючыся на марксісцка-ленінскім фундаменце, мае шмат плённых у творчых адносінах палажэнняў.

Адзін з галоўных і цікавейшых момантаў у гэтай канцэпцыі — думка аб тым, што паэтычная творчасць нараджаецца тады, калі імкненне самой рэчаіснасці ўбачыць свой вобразны адбітак, сваё абагульненне ў мастацкай думцы прыходзіць у раўнавагу з жывой і палкай думкай паэта, якая імкнецца да ўвасаблення ў рэчаіснасць.

«Мастацкі, эстэтычны эфект такой сустрэчы, — гаворыць Р. Бярозкін, — будзе тым больш адчувальным, чым больш істотная і глыбокая ў грамадскім сэнсе тая з'ява жыцця, якая шукае выйсця ў слове, і чым больш непасрэдна шчыльна звязана ўнутраная думка паэта з яго чалавечай натурай».

Прынцыповая важнасць гэтага палажэння ў тым, што яно патрабуе арганічнага адзінства зместу і формы. У святле яго не можа быць ніякай паблажкі паэту, думка якога не саспела для адлюстравання істотнай з'явы рэчаіснасці, але які толькі адгукнуўся на настойлівую патрэбнасць самой рэчаіснасці бачыць свой адбітак у мастацкім слове. Гэтак сама як малая істотнасць грамадскай з'явы нават пры арганічным пранікненні ў яе думкі паэта не дасць вялікіх і плённых творчых вынікаў.

Настойліва дамагаецца крытык таго, каб творчасць паэта стаяла на ўзроўні народнага духу, каб самае асабістае ў лёсе паэта супадала з агульнанародным нават тады, калі гэтае асабістае выступае гранічна індывідуалізавана, інтымна.

Вось чаму, — робіць вывад крытык, — трэба не цурацца лірычнага ўспрыняцця гістарычных падзей. Іменна такое ўспрыняццё мы маем ва ўсім тым лепшым, што далі нам Маякоўскі, Купала, Тычына, Асееў. Не абстрагавацца ад уласнай біяграфіі, бо іменна праз яе, праз асабістае, уласнае, паэтава голас гісторыі ў яго творчасці будзе лепш даходзіць да нас. Вядома, у тым выпадку, калі паэт будзе глядзець на лірыку не як на форму адыходу ад гісторыі, не як на «адпачынак» ад палітыкі, а, наадварот, будзе бачыць у лірыцы своеасаблівую форму ўвасаблення шматграннага духоўнага зместу эпохі.

Давер да свайго ўласнага ўспрыняцця, лірычны голас як выразнік голасу эпохі... Наколькі добра разумее цяпер Р. Бярозкін, якімі неймавернымі творчымі намаганнямі можна заваяваць гэта права гаварыць ад імя эпохі. І правільна ён дакарае за бястактнасць тых паэтаў, якія спрабуюць выставіць сябе на пярэдні план, не маючы на гэта адпаведных падстаў. Бо трэба валодаць такім агнявым тэмпераментам, якім валодаў Маякоўскі, каб верш пра ўсеагульную забастоўку англійскіх рабочых закончыць радкамі: «Пять миллионов — простите за восторженность — взял бы, обнял и стал целовать».

З усведамленнем гэтага звязана змаганне крытыка супраць вершаў, у якіх няма эмацыянальнага раскрыцця тэмы, вершаў, напісаных без страсці, без гарэння, супраць вобразнай ураўнілаўкі, якая жыццёвы факт пазбаўляе пахаў і колераў рэчаіснасці, надае яму «ідэальны», незямны выгляд.

Гэтай эмацыянальнай ураўнілаўкі не было ў Маякоўскага. «У яго параходы на Адэскім рэйдзе або Эйфелева вежа гаварылі сваімі галасамі», — трапна зазначае Р. Бярозкін.

Крытык правільна заклікае больш давяраць фактам, сур'ёзна іх перадаваць, не зніжаючыся, аднак, да інфармацыйнай сухасці. Не павінна лірыка цурацца элементаў «грубай» прозы, праз якую можа «аб сабе заявіць гісторыя, як штодзённасць, як жывая рэальнасць народных спраў».

Сапраўды, і Куляшоў, і Панчанка, і Броўка выглядалі «празаікамі» побач са сваімі лірычна «расквечанымі» паплечнікамі, настолькі Куляшоў, Панчанка, Броўка большую ўвагу аддавалі дэталям і падрабязнасцям апісальнага характару. Але ў гэтых дэталях і апісаннях больш паэзіі, чым у размагнічаных, лірычных «охах» і «ахах» некаторых лірыкаў.

Чужым з'яўляецца для паэзіі бяздумнае пакалыхванне на хвалях верша, у якім і непатрэбныя па сэнсу пейзажы, і цераспалосіца неарганічных (з пункту гледжання жыццёвай праўды) вобразаў, і дзе толькі дамінуе так званая «пяшчотная», уяўна лірычная інтанацыя.

«Кожны мастацкі элемент павінен быць глыбока змястоўным, стаяць на ўзроўні ідэйнай канцэпцыі твора, яе значнасці і навізны», — гаворыць крытык.

Правільна патрабуе ён ад паэта верша як адзінай і нязменнай формы. Падтрымліваючы творы, дзе рака верша змывае нават страфічныя размежаванні, ён слушна заўважае, што праўда перажывання павінна стаць вершам, рытмам, інтанацыяй, паэтычнай рэальнасцю.

І тут аўтар прыходзіць да разумення верша не як апавядання, выкладзенага ў страфічнай, зарыфмаванай форме, а як арганічнай жывой істоты, дзе ўсё важна і значна і дзе рытм, метр, рыфма прадуладны нават найменшай змене думкі паэта. Р. Бярозкін заўважае, што «слова ў паэзіі значна больш набліжана да чалавечага перажывання, чым слова ў прозе».

Вось чаму вялікая прастата патрабуецца ад паэтычнага слова. Але як жа прыйсці да гэтай прастаты?

«Апошняя рэч — гэта прастата, — пісаў Шапэн. — Вычарпаўшы ўсе цяжкасці, перайграўшы агромную колькасць нот, вы бачыце перад сабою прастату, якая ва ўсёй сваёй чароўнасці з'яўляецца апошняй пячаткай мастацтва. Усякі, хто жадае адразу прыйсці да гэтага, нічога добрага не дасягне, нельга пачынаць з канца».

Маючы ясную паэтычную канцэпцыю, Р. Бярозкін, аднак, не ператварае яе ва універсальны ключ, у адмычку, якая падыходзіць да розных паэтычных індывідуальнасцей. Не! З кожным паэтам ён размаўляе паводле законаў, прызнаных над сабой паэтам. Р. Бярозкін не дэкрэтуе і не камандуе, а намагаецца, зыходзячы з гэтых законаў, вылучыць найбольш моцныя бакі яго творчасці, вартыя далейшага развіцця. І тут трэба адзначыць рысу, якая ўсё больш і больш уваходзіць у крытычную практыку Р. Бярозкіна — рысу добразычлівасці.

Першае пытанне, якое цяпер ставіць крытык, гэта пытанне аб тым, што дадатнага ёсць у паэта, якія моцныя бакі яго творчасці. Няхай яны яшчэ не развіліся, не акрэплі, калі гэта, напрыклад, малады паэт. Але крытык бачыць сваю задачу ў тым, каб нязначнае зерне праўды і натхнення, якое сустракаецца ў творы маладога паэта, вылучыць, асвятліць, зрабіць бачным для ўсіх. Ён імкнецца паказаць дарогу далейшага творчага развіцця. Не заўсёды, праўда, гэта выходзіць удала ў крытыка. Часамі пад яго пяром творчасць паэта не паўстае перад намі як арганічная цэласнасць, а толькі як сума ўдалых і няўдалых твораў, вершаў, радкоў ды ўсё дадатнае зрэдку зводзіцца да некалькіх дробных вершаваных цытат. Але такія артыкулы сустракаюцца рэдка ў крытычнай практыцы Р. Бярозкіна апошніх год. У пераважнай большасці ў яго артыкулах ускрываюцца заканамернасці развіцця творчасці паэта, выяўляецца яго мастацкая канцэпцыя, трапна асвятляюцца яе моцныя і слабыя бакі. Як мастацкая цэласнасць раскрыта творчасць Максіма Лужаніна, Антона Бялевіча і іншых. Вось як дакладна і скандэнсавана выяўлена істотнае ў творчасці А. Бялевіча:

«Таленавітая творчасць Антона Бялевіча мае супярэчлівы харзктар. З аднаго боку яркія, але не апладнёныя вялікай ідэяй бытавыя і пейзажныя замалёўкі, а з другога — «ідэі», якія не сцвярджаюць усяго багацця рэальнага свету».

Зусім правільна крытык падкрэслівае, што, вызваленая ад інтэлектуальнага элемента, робіцца кніжнай сама натуральнасць Бялевіча, яго «прывязанасць да зямлі».

Але гэтыя сапраўды глыбокія і цяжкія для свайго вырашэння супярэчнасці ў творчасці А. Бялевіча не перашкаджаюць крытыку бачыць моцныя бакі яго паэзіі.

Тое, што крытык не навязвае паэту рэцэптаў, чужых яго творчай індывідуальнасці, хаця нярэдка спасылаецца на іншых паэ-

Рыгор Бярозкін. «Спадарожніца часу». Артыкулы аб паэзіі. Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Мінск, 1961.

# ПЯСНЯР «ПОМСТЫ І СМУТКУ»

**ДА 140-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ М. А. НЯКРАСАВА**

Ник. Некрасов

Я лиру посвятил народу
своему.
Быть может, я умру неведомый
ему,
Но я ему служил — и сердцем
я спокоен...
Пускай наносит вред врагу
не каждый воин,
Но каждый в бой иди!

У гэтых словах вялікага рускага паэта коратка, але вельмі выразна акрэслена галоўная мэта ўсёй яго творчасці. Праўда, Някрасаў з уласцівай яму выключнай сціпласцю ў значнай меры недаацэньвае тут тую важную ролю, якую ён разам са сваімі саратнікамі Чарнышэўскім і Дабралюбавым адыграў у рускім вызваленчым руху. На самай справе ў напружанай палітычнай і ідэйнай барацьбе 40—70-х гадоў мінулага стагоддзя яго паэзія ў яркіх мастацкіх вобразах адлюстравала жыццё, барацьбу і спадзяванні заняволенага рускага народа, яго мары і імкненні.

Творчасць Мікалая Аляксеевіча Някрасава складае не толькі цэлую эпоху ў гісторыі рускай літаратуры і паэзіі, але з'яўляецца і каштоўнейшым укладам у гісторыю рускай грамадскай думкі і рэвалюцыйнага, вызваленчага руху. Ён належыць да ліку тых выдатных дзеячоў рускай культуры, якія пракладвалі новыя шляхі ў літаратуры і ў сваёй творчасці імкнуліся да вырашэння важнейшых пытанняў грамадскага жыцця свайго часу. Сваімі творамі ён хацеў дапамагчы сацыяльнай перабудове грамадства ў адпаведнасці з перадавымі, рэвалюцыйна-дэмакратычнымі ідэаламі эпохі. Таму яго ўплыў на сучаснікаў, асабліва на моладзь, быў вельмі вялікім. Гэта прызнавалі і ідэйныя ворагі паэта. Так, напрыклад, агенты трэцяга аддзялення, якія забаранялі многія вершы і цэлыя кнігі Някрасава, вымушаны былі прызнаць, што «Някрасаў... зрабіўся ў цяперашні час любімым паэтам рускай моладзі». А літаратурны даносчык Фадзей Булгарын дакладваў сваім шэфам: «Някрасаў — самы адчайны камуніст: варта толькі прачытаць яго вершы і прозу ў С.-Пецярбургскім Альманаху, каб пераканацца ў гэтым. Ён страшэнна агітуе за рэвалюцыю».

Аб тым, што рэвалюцыйныя матывы ў творчасці Някрасава з кожным годам узмацняліся, сведчаць яго ўпартыя намаганні стварыць вобраз станоўчага героя-рэвалюцыянера. Калі ў вершах пачатку 40—50-х гадоў паэт паказваў сваю музу мужнай пакутніцай, якая маўкліва пераносіць усе болі, то ўжо ў другой палове 50-х гадоў Някрасаў у вершы «Паэт і грамадзянін» адкрыта заклікае «громить пороки смело».

У 1856 годзе Някрасаў піша першую паэму аб рэвалюцыянерах «Няшчасныя», якая прысвечана праслаўленню людзей, што змагаліся і пакутвалі за народную справу. У цэнтры паэмы — вобраз рэвалюцыянера Крота.

Асабліва вялікае значэнне для рэвалюцыйнай моладзі 60-х гадоў мела някрасаўская «Песня Ярамушкі», многія радкі з якой сталі рэвалюцыйнымі лозунгамі. Тут паэт малюе вобраз прапагандыста ў вёсцы і яго вуснамі гаворыць аб сродках барацьбы за братэрства, роўнасць і свабоду народа.

Часта правобразамі станоўчых герояў Някрасава з'яўляліся яго сябры і саратнікі. Так, вялікі дэмакрат Чарнышэўскі ўвасоблен у паэзіі Някрасава ў вобразе прарока рэвалюцыі, які лічыць немагчымым «служить добру, не жертвуя собой». У вершы «На смерць Шаўчэнкі» апяваецца жыццё вялікага ўкраінскага змагара і паэта прыгнечанага ўкраінскага сялянства, якога замучыў царскі ўрад. М. А. Дабралюбаву паэт прысвяціў два вершы: «Дваццатае лістапада» і «Памяці Дабралюбава». Рысы характару Дабралюбава таксама добра відаць у адным з лепшых вобразаў рэвалюцыянераў, створаных Някрасавым у паэме «Каму на Русі жыць добра» — у вобразе Грышы Дабраклонава, якому як і Дабралюбаву, «лёс рыхтаваў шлях слаўны, імя гучнае, сухоты і Сібір». Грыша лічыць сябе самым шчаслівым чалавекам у Расіі, бо ўсё жыццё аддае справе барацьбы за тое, каб кожнаму селяніну жылося прывольна-весела. Някрасаў не сумняваўся, што сялянскія «тапары ляжаць — да пары». Гэта і натхніла яго на стварэнне геніяльнай песні «Русь».

Рать подымается —
Неисчислимая!
Сила в ней скажется
Несокрушимая!
Ты и убогая
Ты и обильная,
Ты и забитая,
Ты и всесильная,
Матушка-Русь!..

Думы аб Расіі, аб рускім народзе і яго далейшым лёсе праходзяць праз усе творы Някрасава: ён быў вялікім патрыётам і пісаў свае вершы крывёю сэрца. Але паэт быў далёкі ад нацыянальнай абмежаванасці. Яго цікавіў таксама лёс іншых народаў Расіі. Так, напрыклад, Някрасаў, як і іншыя перадавыя рускія пісьменнікі, часта звяртаў сваю ўвагу да беларускага народа, які знаходзіўся ў яшчэ больш цяжкіх умовах, чым рускі народ. Менавіта, ён стварыў у сваім неўміручым творы «Чыгунка» ўпершыню ў рускай літаратуры рэалістычны вобраз беларуса. Гэты вобраз узяты паэтам з гушчы жыцця прыгнечанай царызмам Беларусі.

Прагрэсіўныя дзеячы беларускай культуры пільна сачылі за творчасцю М. А. Някрасава, лічылі яго сваім ідэйным настаўнікам, захапляліся яго паэзіяй. Царскае самадзяржаўе, якое добра ведала рэвалюцыйны ўплыў вершаў паэта, любым чынам імкнулася ізаляваць яго ад беларускіх чытачоў. Так, пасля таго, як было падаўлена польскае паўстанне 1863 года і па ўсёй Расіі часова перамагла рэакцыя, царскі ўрад забараніў прывозіць у Беларусь і распаўсюджваць тут творы Някрасава.

Але як ні стараліся царскія халуі засцерагчы Беларусь ад пранікнення рэвалюцыйнай рускай літаратуры, ім не ўдалося ажыццявіць свае намеры. Перадавыя прадстаўнікі беларускага народа — Францішак Багушэвіч, Янка Лучына, Адам Гурыновіч і іншыя — выхоўваліся на вялікіх традыцыях рускай рэвалюцыйнай дэмакратыі. Газета «Минский листок», якая выходзіла ў 1886—1894 гадах, вельмі часта і з любоўю ўспамінала імя Някрасава. Вершы і некаторыя апавяданні, змешчаныя ў газеце, пераканаўча сведчаць аб плённым уплыве вялікага рускага паэта на творчасць тагачасных беларускіх пісьменнікаў. Асабліва прыкметна праяўляецца гэты ўплыў пры вырашэнні тэмы горкага сялянскага жыцця. Так, у апавяданні Знаёмца «Не сышліся характарам» успамінаецца не толькі імя Някрасава, але і прыводзяцца някрасаўскія вобразы з паэмы «Каму на Русі жыць добра».

У плане яўнага наследавання Някрасаву напісаны верш Мік. Зялінскага «Голад», эпіграфам да якога ўзяты радкі з някрасаўскай «Чыгункі»: «В мире есть царь: этот царь беспощаден, голод названье ему».

Някрасаўскія традыцыі ў паказе сялянскага жыцця ва ўмовах паслярэформеннага перыяду наследаваў і развіваў у беларускай літаратуры Ф. Багушэвіч. Пры гэтым беларускі паэт не механічна капіруе Някрасава, а па-наватарску развівае някрасаўскі матыў «помсты і смутку» ў такіх сапраўды патрыятычных і рэвалюцыйна-дэмакратычных вершах, як «Бог не роўна дзеле», «Дурны мужык, як варона». «Кепска будзе!», «Гора», «Не цурайся!» і інш.

Значнае ідэйнае і мастацкае ўздзеянне аказаў Някрасаў на дарэвалюцыйную творчасць такіх буйных беларускіх пісьменнікаў, як Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны.

У 1921 годзе Н. К. Крупская, якая пры гэтым мела на ўвазе і адносіны да паэта Ул. І. Леніна, сказала пра М. А. Някрасава: «Гэта наш паэт, хоць і аддзяляюць нас ад яго тры рэвалюцыі, якія не пакінулі каменя на камені ад старых парадкаў».

На ўсе пытанні аб свабодзе і шчасці нашага народа, якія так пакутліва імкнуўся вырашыць паэт, адказала Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя, наша эпоха будаўніцтва камунізма, якая перавысіла самыя высокія мары лепшых людзей мінулага.

**Б. КЛЮСАЎ.**

## НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

**Першы пераклад верша М. Някрасава «Мароз» на беларускую мову быў зроблены ў другой палове XIX стагоддзя Адамам Гурыновічам.**

**У 1905—1908 гадах Янка Купала пера лаў вершы М. Някрасава «Галадоўліца», «Соленая», «Што ні год, памяншаюцца сілы», «У людзей і ў нас», «Агароднік», «Нязжатыя гоні».**

**Над перакладам паэтычных твораў М. Някрасава многа працаваў Алесь Якімовіч: «Каму на Русі жыць добра» (1940, 1948). «Генерал Таптыгін» (1940, 1952), «Дзядуля Мазай і зайцы» (1936, 1938, 1957), «Сялянскія дзеці» (1938, 1955). Усяго выдадзена дзевяць кніг М. Някрасава, перакладзеных А. Якімовічам, у колькасці каля 200 тысяч экземпляраў.**

**Творы М. Някрасава перакладалі народны пісьменнік Кандрат Крапіва («Забытая вёска»), Алесь Гурло («Радзіма»), Уладзімір Шахавец («Рускаму пісьменніку»), Міхась Клімковіч («Свабода»), Кастусь Кірэенка («Нязжатая палоска» і «Зялёны шум») і іншыя.**

Нядаўна Мінск наведала дэлегацыя Усенароднага камітэта балгара-савецкай дружбы. Госці пазнаёміліся з беларускай сталіцай, пабывалі ў музеі Вялікай Айчыннай вайны і Мастацкім музеі, на трактарным і гадзіннікавым заводах.

На гадзіннікавым заводзе быў праведзен вечар балгара-савецкай дружбы. Як самых лепшых і дарагіх гасцей сустрэлі работніцы завода дэлегацыю камітэта. Вечар прайшоў надзвычай цёпла, сардэчна. Незабыўнай была гэтая сустрэча. Старшыня Варненскага камітэта балгара-савецкай дружбы Валя Вічава (справа) расказала аб жыцці і працы свайго народа.

Вечар балгара-савецкай дружбы закончыўся вялікім канцэртам, у якім выступілі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці гадзіннікавага завода.

Фота В. Бараноўскага.

## ПАРТРЭТНАЯ ГАЛЕРЭЯ

У Смаргоні ў скверыку каля Дома культуры ўстаноўлена партрэтная галерэя пераможцаў сацыялістычнага спаборніцтва за дастойную сустрэчу XXII партыйнага з'езда.

Сярод перадавых людзей — партрэты брыгадзіра механізатараў калгаса «Чырвоны партызан» П. Ліса, перадавых даярак раёна Я. Лішак (калгас «Светлы шлях») і С. Гіль (саўгас «Дубраўляны»), кінамеханіка Залескага сельскага Дома культуры М. Савоські і інш.

Усе гэтыя партрэты напісаны мясцовым самадзейным мастаком Аляксандрам Іванавічам Жываевым.

**Ул. СУРМАЧ.**

## Міжнародны кінаальманах

На гарадскіх і сельскіх экранах Беларусі дэманструецца першы нумар міжнароднага кінаальманаха Сусветнага Савета Міру «Дзень маладога чалавека».

Фільм складаецца з шасці самастойных навел: балгарскай, венгерскай, нямецкай (ГДР), кубінскай, японскай, савецкай, знятых кінематаграфістамі гэтых краін.

Аб'яднаныя дыктарскім тэкстам, навелы разам з пралогам складаюць цэласны фільм, прысвечаны агульнай ідэі — у барацьбе за мір моладзь павінна шчыльней згуртоўваць свае рады.

Мантаж кінакарціны ажыццёўлены рэжысёрам Ю. Озеравым на кінастудыі «Масфільм». Дыктарскі тэкст напісан драматургам Г. Мдзівані.

# У ГВІНЕІ

*З далёкіх падарожжаў*

**Віталій ВОЛЬСКІ**

### ЛЕАПАРД І БАБУІНЫ

Змяніліся адносіны і да леапарда. Раней яго лічылі шкодным драпежнікам і знішчалі ўсюды, дзе толькі маглі, усімі спосабамі і без усякіх абмежаванняў. Леапард зрабіўся ў Афрыцы рэдкім зверам. Затое дзікія свінні і гвінейскія бабуіны, малпы з сямейства павіянаў, настолькі размножыліся, што сельскае насельніцтва пачало цярпець ад іх з кожным годам усё большыя страты.

— Дзікі руйнуюць палеткі ноччу, а бабуіны і днём, — гаворыць Анры. —Разумныя, злыя і адважныя, гэтыя малпы з сабачымі галовамі не баяцца сонечнага святла. Яны з'яўляюцца цэлымі полчышчамі, накідваюцца на сады, палі і агароды, набіраюць здабычы, колькі могуць і спрытна ўцякаюць. На змену адной бандзе з'яўляецца другая.

Вы не можаце сабе ўявіць, што тады робіцца! Мужчыны крычаць і страляюць, дзеці кідаюць каменне, жанчыны плачуць і праклінаюць нахабных разбойнікаў. Толькі бабуіны не звяртаюць на гэта ніякай увагі, робяць сваю шкодную справу.

Калі хто-небудзь з налётчыкаў і застанецца забіты, такой бяды! Іншых гэта быццам і не датычыцца, — занадта іх многа. У кожнай бандзе да двухсот бабуінаў, а часам і больш. Кожны дарослы бандыт можа пацягнуць за адзін раз пяць-шэсць бананаў ці пачаткаў кукурузы. Пасля такога налёту на полі ці плантацыі мала чаго застаецца.

Тым не менш, нягледзячы на вялікую шкоду і страты, чорныя людзі і не думаюць знішчаць бабуінаў. Большасць гвінейцаў лічыць, што малпу забіваць нельга. У некаторых вёсках жанчыны нават самі прыносяць у кошыках на ўскраіну лесу пачастункі для бабуінаў, каб тыя не руйнавалі праз меру палеткі.

Зацятую барацьбу супраць бабуінаў вядуць толькі белыя пасяленцы, але з хітрымі малпамі нічога і не зробіш. Нікога яны не баяцца, дзейнічаюць дружна і арганізавана, нібы па загадзя распрацаванаму плану. Іх не адагнаць ні стрэламі, ні шумам, ні агнём, ні сабакамі, ні пасткамі. Яны ўцякаюць, прыўзняўшы хвасты, на бяспечную адлегласць, спакойна глядзяць на ўсхваляваных людзей, ядуць захопленую здабычу і часам брэшуць, як сабакі. Бабуіны добра ведаюць, на якой адлегласці можа ў іх трапіць куля. Іх не ашукаеш ніякай пасткай.

У багатых сядзібах скрозь агароджы вакол садоў і плантацый прапушчаны электрычны ток. Але ж і гэта не дапамагае. Бабуіны хутка распазналі, што дакранацца да дроту нельга, і заўсёды знаходзяць спосаб прабрацца туды, куды ім трэба, без шкоды для сябе. Яны баяцца толькі леапарда на зямлі і кракадзіла ў вадзе.

Здараецца часам, што бабуіны забіраюцца нават і ў пуні. Як вопытныя злодзеі, яны выстаўляюць вартавых, якія брэхам папярэджваюць астатніх аб небяспецы.

Няма ратунку ад гэтых нахабных разбойнікаў з галовамі, падобнымі на сабачыя.

Вось тут людзі і ўспамянулі леапарда, хоць і позна, але добрым словам. Пачалі скардзіцца і шкадаваць, што так мала леапардаў засталося на свеце, бо толькі леапард і зможа ім дапамагчы супраць нахабных малпаў.

Справа ў тым, што леапарды кормяцца ў асноўным маладымі дзікамі і бабуінамі. Людзі зразумелі, што чым менш леапардаў у лесе, тым больш дзікаў і бабуінаў на вясковых палетках. Таму цяпер і леапард узяты ў Гвінеі пад абарону, каб аднавіць ў прыродзе неразумна парушаную раўнавагу.

### БАНАНАВЫ ГАЙ

Машына спынілася каля вялікага бананавага гаю.

Мы ідзём па вузкай сцежцы.

Сярод вялізных, заўсёды падраных лістоў з усіх бакоў вісяць над намі і вакол нас цяжкія, важкія гронкі жоўта-зялёных пладоў.

Клапатлівы Анры зноў папярэдзіў нас, каб мы ўважліва глядзелі пад ногі.

— Змеі? — пытаемся мы крыху іранічна.

— Так, месье, — сур'ёзна пацвердзіў праваднік. — Будзьце асцярожны!

Жартаваць на гэтую тэму Анры яўна не хоча. У голасе яго гучыць нават некаторая занепакоенасць. Ён гаворыць з намі тонам школьнага настаўніка, які звяртаецца да свавольных і лёгкадумных вучняў:

— Сярод лісця бананаў часта хаваецца змяя, сама з выгляду падобная на плод банана. І таўшчынёй яна з банан, і скура ў яе зялёнага колеру. Называюць яе — «мамба». Гэта вельмі палахлівая і вельмі небяспечная змяя. Ад укуса зялёнай «мамбы» чалавек можа памерці праз некалькі мінут. Зборшчыкі бананаў уважліва сочаць, каб незнарок не ўхапіць разам з гронкаю бананаў і бананавую змяю.

Мы дзякуем Анры за папярэджанне і ідзём далей. Тут растуць адны бананы, і растуць яны вельмі густа.

Гэта сапраўды вялікі... я ледзь не сказаў — лес, але тут жа падумаў, ці правільна гэта будзе?

Адны называюць участак, дзе мы знаходзімся, бананавым гаем, другія — лесам, а трэція — плантацыяй. Апошняя назва здаецца найбольш правільнай, бо тут растуць не дзікія, а культурныя бананы, пасаджаныя і вырашчаныя чалавекам.

Апроч таго, банан зусім не дрэва, як гэта многім здаецца, а трава.

Так, хоць банан з выгляду і падобны на дрэва, але ў сапраўднасці з'яўляецца, па ўсіх правілах батанікі, «шматгадовай трававіднай раслінай з тоўстым карнявішчам».

Вось што такое банан, калі разбірацца сур'ёзна. Таму мы і будзем лепш называць бананавы гай плантацыяй.

Першапачатковай радзімай банана лічыцца Паўднёва-Заходняя Азія, але цяпер ён распаўсюджаны па ўсіх трапічных краінах свету. У Афрыцы банан, як культурная расліна, быў вядомы з далёкіх старажытных часоў, задоўга да з'яўлення еўрапейцаў. Ім карысталіся яшчэ за пару тысячагоддзяў да нашай эры егіпцяне. Партугальцы, якія першымі трапілі ў Заходнюю Афрыку, пісалі пра банан як пра адну з асноўных культурных раслін афрыканскага насельніцтва.

На плантацыі, па якой мы ідзём, бананы растуць шчыльнымі радамі, адзін каля аднаго, з невялікімі прамежкамі. На адзін гектар зямлі тут прыходзіцца каля дзвюх тысяч раслін.

Вялізныя лісты банана, у тры-чатыры метры даўжынёй, так звязаны і сплецены ў сваёй аснове між сабою, што ўтвараюць нейкае падабенства ствала, вышынёю да дзесяці метраў.

Размнажаюцца культурныя бананы адросткамі, якія з'яўляюцца кожны год на карнявішчы расліны. На старым ствале пакідаюць адзін адростак, а іншыя садзяць на новым участку. Малады банан дае ўраджай праз паўтара гады пасля таго, як з'явіліся новыя лісты. Кожная расліна дае адну гронку вагою ў дванаццаць-пятнаццаць кілаграмаў.

Мучністы банан, плады якога не такія салодкія, займае, нароўні з рысам, вельмі значнае месца ў харчаванні ўсяго насельніцтва Заходняй Афрыкі. Яго ядуць і вараным, і смажаным, як у нас бульбу.

Фруктовы банан, больш салодкі і араматны, ідзе галоўным чынам на экспарт. Вываз бананаў з Гвінеі дасягае звыш пяцідзесяці-шасцідзесяці тысяч тон у год.

Яшчэ нядаўна я бачыў гвінейскія бананы толькі ў магазінах Мінска, цяпер я сустрэўся з імі ў натуральным стане, на іх радзіме.

На плантацыі працуе некалькі дзяўчат, голых да пояса. Яны кінулі свае вялікія гарбузовыя міскі і паглядаюць на нас з цікавасцю.

Адна з дзяўчат, у шырокай каляровай спадніцы і светлажоўтай хустцы, накручанай на галаву, згадзілася, каб яе сфатаграфавалі. І вось яна стаіць каля гронкі бананаў перад чужымі людзьмі знешне спакойна, хоць і не зусім упэўнена, можа нават крыху спалохана. Чорная, нібы атласная скура ільсніцца на сонцы. Даўгая гнуткая рука з натуральнай грацыяй упіраецца ў бок, другая апушчана ўніз. На шыі— чырвоныя каралі, каля ног пустая міска, якая неўзабаве будзе запоўнена зрэзанымі бананамі.

### ДЗЕЦІ

Наш прыезд у вёску выклікаў ажыўленне.

Вясёлыя, гаманлівыя дзеці збягаліся з усіх бакоў паглядзець на белых чужаземцаў. Некаторыя з дзяцей былі зусім голыя. На маленькіх дзяўчынках былі толькі пацеркі і каляровыя бранзалеты з бісеру. На другіх—даволі прыгожыя плацці. Многія з дзяўчынак прадавалі на базары апельсіны і розныя дробныя рэчы. Двое хлапчукоў былі ў падраных кашулях і сініх берэтах.

З малымі на руках падышлі жанчыны. Яны здзіўлялі нас сваімі надзвычай даўгімі, адвіслымі ледзь не да пояса грудзьмі.

Толькі некаторыя з жанчын, пераважна маладзейшыя, былі апрануты ў лёгкія паркалёвыя плацці з яркай афарбоўкай. Пераважалі сіні, жоўты і чырвоны колер.

Я зняў групу дзяцей.

Яны трымаліся спакойна і сур'ёзна.

Дзве дзяўчынкі стаялі зусім як дарослыя, з міскамі на галовах. Хлапчук у сінім берэце трымаў у руках кніжку на французскай мове з відамі Масквы. Гэтую кніжку мы яму падарылі, і ён з цікавасцю разглядаў каляровыя малюнкі.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

**Пачатак гл. у газеце за 1 і 5 снежня г.г.**

таў, яскрава відаць з таго ж артыкула «Талент і светапогляд» аб творчасці А. Бялевіча.

Разглядаючы паэму «Родная крыніца», каб больш зразумелай зрабіць для паэта сваю думку, Р. Бярозкін прапануе ўявіць, што было б, каб паэма «Сцяг брыгады», блізкая па творчай манеры Бялевічу, была працягам «У зялёнай дуброве», каб Хрысціна, Іван і Васіль з баянам выносілі баявы сцяг, пры чым кожны з хлопцаў стараўся праявіць адвагу не таму, што гэтага патрабуе справа, а з адзінай мэтай прывабіць дзяўчыну».

Вычарпальна выкрывае слабасці творчасці Бялевіча і спасылка на другога блізкага яму паэта — А. Твардоўскага. Не заняў бы прыкметнага месца ў літаратуры А. Твардоўскі, каб увесь свой творчы век пратаптаўся вакол старэнькай бацькоўскай кузні на Смаленшчыне, а не браў яе толькі як трамплін, каб перакінуцца да ўсесаюзнай кузні — да Урала і далей да ўсіх неабсяжных прастораў краіны.

Хоць з'едлівая, але правільная заўвага Р. Бярозкіна аб тым, што раней раку паэзіі А. Вялюгіна «каламуцілі сцюдзёныя вятры рыторыкі, а цяпер часамі скоўвае лядок халаднаватага «артыстызму». Правільным і арганічным у дачыненні да творчасці К. Кірэенкі з'яўляецца меркаванне, што не абысціся яму без «ціхага пастскрыптума інтымнасці, цеплыні, нявыдуманых чалавечых пачуццяў».

Нават тады, калі Бярозкін адмаўляе пэўны твор і горача спрачаецца з аўтарам, ён не абміне падкрэсліць тое добрае, што ёсць цяпер ці што было раней уласціва паэту. Разважаючы пра паэму А. Русецкага «Другі пачатак», ён не забыўся ўспомніць такія цудоўныя радкі паэта:

Месяц—важкая куля,
пудоў сто медзі ў ёй,
груз для цэлага каравана,
а не падае вось,
плыве над зямлёй,
як пушынка ад губ каханай.

Мне вельмі блізкая і зразумелая тая размова аб паэтычным майстэрстве, якую вядзе Бярозкін на працягу ўсёй сваёй кнігі. Гэтыя старонкі не вылучаны ў асобны раздзел, гэтак сама як і не зведзены да двух-трох радкоў, якія механічна дадаюцца да сацыяльнага аналізу. Не! Гэтым арганічна дыхае ўся кніга. І размова аб майстэрстве пачынае весціся і вядзецца сур'ёзна толькі тады, калі гэтага вымагае сам змест твора. І вось яскравы прыклад з артыкула пра паэзію Рыгора Барадуліна.

Працытаваўшы радкі паэта пра жніво:

Трасянуў сваім чубам —
даспелым калоссем,
Падперазаўся вязьмом—і ў абоз!
Асмужаны, вусам асцістым
калоўся
І шлях па іржышчу прамяў
снапавоз,—

крытык зазначае: «Уражанне такое, — а бярэцца яно ад цэласнасці і паўнаты аўтарскага пачуцця, — быццам само жніво зарыфмавала сябе, падкрэсліўшы найбольш характэрнае ў сваім аблічча».

І далей пачынаецца вельмі сталая і натхнёная размова аб рыфме ў народных песнях. Крытык піша:

«Глыбока памыляюцца тыя, хто, жадаючы апраўдаць бедную, зацяганую рыфму ў вершах таго ці іншага паэта, атэстуюць яе як рыфму «па-народнаму простую». Не такая ўжо і «простая» рыфма «ласкавая — палясківала» ў шырока-вядомай «Лявонісе»! А такіх сугуччаў — комплексных, «слыхавых» — у фальклоры вельмі і вельмі багата».

І далей:

«Ці знойдзецца хоць адзін чалавек, больш або менш чулы да паэзіі, якога б не праняла да душы вось гэтая старая, складзеная ў часы прыгону беларуская народная песня:

Я табун сцерагу, а ўсе людзі
спяць,
Я адзін на расе, абмакрэў,
акалеў.
Адубеў, перамёрз, ой...

Не, што ні кажы, — дадае крытык, — а выдатны паэт быў той невядомы вясковы хлопец пры табуне! Перажыванні вельмі значныя, інтуіцыя амаль геніяльная, падказалі яму разгарнуць ланцужок сінонімаў: абмакрэў, акалеў, адубеў, перамёрз, каб нечакана і на самай высокай ноце рэзка яго абарваць стогнам пякучага болю...»

І нідзе развагі Р. Бярозкіна аб фармальных асаблівасцях верша не ператвараюцца ў нудны пералік памераў, жаночых і мужчынскіх рыфмаў.

«Пытанне аб рыфме, — слушна гаворыць крытык, — пытанне прыватнае, можа нават другараднае. Гэта размова мае на ўвазе перш за ўсё паўнату і багацце жыццёвага зместу, актыўнасць светаадчування, якія ніколі не задавальняюцца формай бязладнай, расхлябанай, млявай, бо знаюць сапраўдную цану слову важкаму, выбранаму беспамылкова сярод многіх слоў».

Маючы на ўвазе паўнату і багацце жыццёвага зместу, а не фармалістычную гульню, Р. Бярозкін бязлітасна крытыкуе асобныя вершы Р. Барадуліна, «не прасветленыя напружанай лірычнай думкай», дзе кожная дэталь існуе сама па сабе, па-за сувяззю з цэлым.

Толькі сапраўдная сталасць, якая абапіраецца на веданне жыцця, абумовіла правільнае прачытанне верша Р. Барадуліна «Соль», у якім шмат выклікана асацыяцый, зроблена шмат экскурсаў для апраўдання слоў: «Ты не перасалі, сынок». З прычыны гэтага верша з прытоеным гневам і горыччу піша крытык:

«І дзеля гэтага каламбура, дарэчы, вельмі няяснага па сэнсу... паэту трэба было турбаваць прадзеда, чумакоў і нават млечны шлях, празваны чумацкім?»

Не магу не пахваліць густ крытыка, які амаль нідзе не памыляецца ў эстэтычнай ацэнцы верша, страфы, радка. А якая гэта рэдкая з'ява ў нашай крытыцы. Як часта чытаеш узнёслы і напышлівы каментарый да радкоў паэта, такіх жа пустых і напышлівых, і з горыччу думаеш: каго хоча ашукаць крытык? У Р. Бярозкіна не гэтак. Ён дае мажлівасць вам самому ацаніць хараство таго, што хваліць.

Вось у Лужаніна:

Жахне ў вочы кур'ерскі, гарачы,
як чутка,
І раскроіць зялёным хвастом
краявід.
Бліскавіцаю шкла
прамільгне заклапочаны хуткі,
Пратуркоча паштовы,
Прасыпле вясёлы транзіт.

І каментарый крытыка:

«Тое, што ў страфе ўжыта мноства дзеясловаў... надае малюнку вялікую дынамічнасць. Звяртаюць на сябе ўвагу трапнасць і навізна «галубінага» слоўца пратуркоча, дастасаванага да паштовага (іменна да паштовага!) цягніка. Гэта ўжо ўсвядомленае майстэрства!»

Або вось як трапна ацэньвае Р. Бярозкін верш іншага паэта — А. Вялюгіна:

«Калі мы чытаем у вершы «Вечны каляндар» такія радкі пра восень:

Хмурынкі — й тыя ў тарпах,
І так у полі пуста,
І верас вераснем прапах,
Зазімкамі — капуста, —

дык нам здаецца, што мы гэту восень не проста бачым, але яшчэ і спрабуем «на смак»,— так добра перададзена ў чатырохрадкоўі і ломкасць капуснага ліста, і яго халаднаватая свежасць, і ясная сінява першага восеньскага зазімку».

Надзвычай свежае ўспрыняцце паэтам навакольнага знайшло чулага крытыка, які адразу заўважыў гэта. Гэтак сама, як ён заўважыў постаць дзяўчыны з верша К. Кірэенкі, якая, шчаслівая ад кахання, вяртаецца дадому:

Што скажу матулі я,
Як часінай позняю
Я з'яўлюся перад ёй —
Ласкавай і грознаю?
Што скажу, схаваю як
Водар той дубровы?
Я ж у хату прынясла
Пах чабаровы...

Смешна, вядома, было б лічыць, што ў такой вялікай кніжцы, як «Спадарожніца часу», няма агрэхаў, недакладна выказаных думак, слабейшых артыкулаў.

Менш цікавымі мне здаліся артыкулы аб «Безназоўным» Янкі Купалы, аб творчасці В. Таўлая. Вузка зразумеў крытык сэнс верша Янкі Купалы «Я не паэта», яўна збіўся ён з добрага тропу ў сваіх глыбакадумных развагах аб сэнсе рыфмы «банцікі — бацькавых» у вершы Р. Барадуліна. Але ўсе гэтыя хібы выразна відаць іменна на фоне добрай кнігі, якая сама дыктуе высокі ўзровень патрабавальнасці. Размова аб паэзіі, якая вядзецца Бярозкіным, настолькі змястоўная, цікавая, напружаная і дасціпная, што як толькі ў яе ўрываюцца некалькі фальшывых радкоў ці павярхоўная думка, яны адразу як на далоні відаць.

Пажадаем таленавітаму крытыку новых творчых поспехаў.

**У многіх выстаўках удзельнічаў самадзейны гродзенскі скульптар машыніст электрастанцыі А. Ліпень. Народны ўмелец стварыў скульптурныя партрэты Кастуся Каліноўскага, героя Парыжскай камуны генерала Валерыя Урублеўскага.**

**На здымку вы бачыце скульптара за работай над бюстам беларускай паэтэсы Цёткі (Алаізы Пашкевіч).**

